IMAGE COMICS PRESENTS

# THE WALKING DEAD


**ROBERT KIRKMAN**
Creator, Writer

**CHARLIE ADLARD**
Penciler, Inker, Cover

**CLIFF RATHBURN**
Gray Tones, Cover Colors

**RUS WOOTON**
Letterer


**Previously:**
Tyreese, Michonne, Axel, Andrea, Glenn and Maggie were attacked by residents of Woodbury while on a supply run. Glenn was shot but his riot gear protected him. Back at the prison, Lori gave birth to her child, a healthy baby girl... and Dale has been bitten by a zombie.


For Image Comics

Erik Larsen
Publisher

Todd McFarlane
President

Marc Silvestri
CEO

Jim Valentino
Vice-President

Eric Stephenson
Executive Director

Joe Keatinge
PR & Marketing Coordinator

Thao Le
Accounts Manager

Rosemary Cao
Accounting Assistant

Traci Hui
Traffic Manager

Allen Hui
Production Manager

Jonathan Chan
Production Artist

Drew Gill
Production Artist

www.imagecomics.com







ПАМАЖЫЦЕ!
Патрэбна дапамога!
О божа!
Білі? Дзе Білі?!
Запраўляе генератар... З ім усё добра.


Яго ўкусілі?! І што ты хочаш, каб я зрабіла?
Няўжо не гэта забіла Алена?
Адкуль табе ведаць, што гэта дапаможа менавіта зараз?
Я хачу, каб ты выратавала яму жыццё!
Ты ж можаш адрэзаць яму нагу перш, чым інфекцыя распаўсюдзіцца!
Яго забіла не ампутацыя нагі, а інфекцыя ці страта крыві... ці абедзьве прычыны.
У нас атрымаецца, але трэба пачынаць зараз жа, перш, чым інфекцыя пачне распаўсюджвацца.
Эліс зможа зрабіць гэта правільна! Зможа выратаваць яму жыццё. Яна прывяла ў парадак маю руку, не дала мне загінуць ад страты крыві.
Ты чула яго! Рабі гэта!
РЭЖ НАГУ!
Проста... проста зрабі гэта.
Давай, зрабі...
Я не гатова да гэтага.


Тады **потым** падлатаеш яго!
Хто-небудзь, перацягніце яго ногу!
Гатова.
Дзякуй, Эксел. Эліс, падрыхтуй усё, што трэба, каб прывесці яго ў парадак і зашыць усё, калі я скончу.
Хто-небудзь, трымайце яго.
Унг!
SKKKKRGH!
АААА!
НННН!
АКК!


Дэйл, божа!!!
Ён **дыхае**?!
Дыхае. Ён у парадку.
Проста ў непрытомнасці.
Справа скончана.
Цяпер ён твой.
Добра... Нам трэба спыніць крывацёк... **Хутка**! Хершэл, прынясі яшчэ ручнікоў.
Патрэбны яшчэ заціскі. Хто-небудзь, знайдзіце іх. Нам трэба паспяшацца!
Гэты свет...
Гэты гробаны свет...
...
Я лічу, мы павінны назваць яе **Джудзіт**.


Ня ведаю, навошта я гадаваў гэты гарод... З ежай, якую вы прывезлі, мы нават не будзем у ім мець патрэбу.
Напэўна, калі ты любіш харчавацца з кансервовых слоікаў. А я? Я не магу дачакацца, каб падсмажыць адзін з тых сакавітых памідораў.
Разумею цябе.
Пякельная выдалася ночка, так?
Так... Гэты ўкус.
Хто-небудзь чуў якія-небудзь навіны пра Дэйла? З ім усё **добра**?
Я заходзіла паўгадзіны назад, і ён усё яшчэ спаў... Але Эліс кажа, што з ім усё ў парадку, наколькі яна можа меркаваць.
Ня думаю, што яна і Андрэа прыснулі хоць на хвіліну мінулай ноччу... Яны проста сядзелі і назіралі за ім.
Божа, я так турбуюся за Андрэа. Спадзяюся, Дэйл вышкрабецца.
Так.


Калі я змагу ўбачыць яго?
Джудзіт?
Я жа казаў табе, Карл, гэта «яна». Ня трэба казаць «яго». Кажы «яе», ці «дзіцё», ці хаця б **«Джудзіт»**.
Менавіта так і будуць клікаць тваю сястру.
Джудзіт... Мне падабаецца.
Дык калі я змагу ўбачыць яе?
Калі яна прачнецца, сынок. Ты спаў занадта доўга, і твая маці і сястра паснулі прама перад тым, як ты ўстаў.
Падай мне вунь тую планку, напэўна яна патрэбна, каб замацаваць сценкі ложачка.
Ты ўпэўнены?
Наўжо ты не можаш проста прачытаць інструкцыю?
Я б змог, калі б не быў поўны ўпартасці і тэстастэрону. Але ж тады было б не так цікава?
Бо цікавей самому зразумець, сапраўды?
Дык як ты правёў мінулую ноч? Не было сумна з Кэрал, Сафіяй і блізнятамі?
Было весела.
Але Кэрал плакала амаль усю ноч.
Гэта дрэнна.

Сэрцабіцце ў норме. Ён у парадку, проста спіць. Лічу, усё будзе добра. Ён не страціў шмат крыві.
Дзіцё, гэта, зламаныя рэбры Глена... І ўсё за адну ноч.
І не кажы.
Ангх... гэй.
Я ўсё яшчэ жывы?
Вось лайно... Прабач, Дэйл. Я не жадала абудзіць цябе.
Нармальна... Ты проста выконваеш сваю работу. Мне здаецца, я ўжо дастаткова адпачнуў. І адчуваю цяпер сябе добра.
Я... пакіну вас адных.
Андрэа?
Усё добра, родная.
Я ў норме. І ўсё будзе добра. Не клапаціся за мяне.


Ды што, курвіска, з табой такое?!
Ты ж старык, чорт бяры! Павольны! Кволы!
Аб чым ты думаў?
Ты не герой! Табе нічога ня трэба даказваць! Ты ўсяго толькі ні на што не здольны старпёр!
Жаласны!
Бескарысны!
О, божа...
Божа...
Я ведаю...
Ты напужалася.
Прабач.
Я кахаю цябе.


Мы пачулі цябе і палічылі, што вы ўжо прачнуліся.
Хтосьці вельмі жадаў пазнаёміцца са сваёй сястрыцай.
Што ж, падыходзьце. Толькі яна зараз есць, але можаце паглядзець на яе.
Ты ўпэўнена?
Я не змагу хавацца па некалькі гадзін у дзень, напрацягу наступных трох месяцаў. Няхай паглядзіць. Не можам жа мы хаваць гэта.
Гэта натуральна.
Аб чым гэта вы?
Вось твая маленькая сястрычка, Карл. Што скажаш?
Яна такая маленькая...
І сімпатычная.
Яна мне падабаецца.
Што ж... прыемна чуць. Дык ты дапаможаш нам засцерагаць яе?
Што скажаш?
Так, абяцаю.
Пашанцавала ёй. Яна будзе думаць, што ўсё нармальна. Не будзе ведаць, як усё змянілася... І як усё было раней.
І яна не будзе ўвесь час баяцца.


Я тут
потам абальюся,
разумееце?
Згодна календару Андрэа...
калі яму ўсё яшчэ можна ве-
рыць... зараз пачатак ліпеня.
А па адчу-
ванням – ужо
жнівень.
Па адчуван-
ням – пекла.
Не памінай бога дарэмна,
хлопец. Бываюць рэчы значна
больш страшныя, чым тое, што
адбываецца зараз.
Гэта не смешна, Білі.
І гэта не тое, з чаго
будзе жартаваць мой
сын.
**Зразумела?**
Ух, т-так,
тата.
Прабач.


Ох, ты ўжо
на нагах?
Мой
«будзільнік»
мяне падняў.
Ха, я нават
не пачуў яе.
Гэта спякота забівае мяне.
Дзіўна, што я наогул
прачнуўся. Памятаеш, якімі
яны былі – кандыцыянеры?
Яшчэ некалькі такіх дзён,
як гэты, і ўспаміны аб іх
выкіпяць з майго мозга.
Сёння ёй
споўнілася два
тыдні. Можаш у
гэта паверыць?
Цэлых два
тыдні.
Пра гэта я таксама
забыў. Як хутка праля-
тае першы год. Мы і
павека не паспеем пры-
крыць, а яна ўжо будзе
бегаць.
Будзем спадзявац-
ца, што гэты год
праймчыцца так жа хут-
ка, як і гэтыя некалькі
тыдняў.
Карл
быў не такі,
як яна.
Яна зусім іншая, гэта
дакладна. Гэта дзяўчынка
– цуд. Але... Я вось што
хацеў сказаць... Як жа ў
апошні час **ціха**.
Ніхто
не **памірае**.


Хэх.
Ох, ты падняўся. Я была за суседнімі дзвярыма. Размаўляла з Кэрал. Я...
Дэйл, усё ў парадку?
Кожную ноч я засыпаю. Гэта адзіны спосаб уйсці ад гэтага ажыўшага пекла. У мяне няма кашмараў... я бачу звычайныя сны, у якіх са мной адбываюцца ўсякія прыемныя рэчы.
У сваіх снах у мяне ўсё яшчэ дзьве нагі, і ўсё ў норме. І мне гэта нават не здаецца дзіўным. Я ніколі не пытаю сябе ў сне: «Няўжо я страціў нагу?»
І гэта нармальна.
І так кожны дзень... Кожны дзень я прачынаюся, гляджу ўніз і ўспамінаю.
І я пражываю гэта зноў кожную раніцу.


А зараз, чорт пабяры! Прыбяры гэта лайно са свайго твара! Я не прасіў шкадаваць мяне. Проста хацеў выказацца.
Божа, а цяпер дапамажы мне ўскараскацца ў крэсла-каляску, каб я мог зладзіць патрэбу.
Дарэчы... У мяне ёсць для цябе сюрпрыз.
Та-да!
Я знайшла іх яшчэ ноччу, але ты ўсё яшчэ спаў, і я не захацела абудзіць цябе.
Цяпер, як толькі ты навучышся імі карыстацца, ты зможаш пісаць ва ўнітаз.
Усё ж такі ў жыцці ёсць свае маленькі радасці.
Усходы ўсё яшчэ будуць праблемай, але гэта яшчэ адзін крок у правільным накірунку.
Праўду кажаш. А цяпер дапамажы мне ўстаць на іх. Трохі практыкі, і я змагу наведваць твае ўрокі па стральбе ў стаячым стане.
Мой хворы азадак удзячны табе.


Рык, ох, Рык!
Ты што **робіш**?
Цябе ж ніхто не пазнае без барады на твары. Ты ж ніколі не галіўся... Ужо пачынаў выглядаць, як кручаны мужык. Не рабі гэтага, чувак.
Стала вельмі спякотна.
Вельмі хутка ты зробіш тое ж самае са сваёй галавой.
Навошта спыняцца на твары?
Не хачу атрымаць сонечны ўдар. Я аддаў свой капялюш сыну.
Наўрад ці ён захоча растацца з ім. І яшчэ, мне падабаюцца мае валасы, таму я захаваю іх яшчэ на нейкі час. Мабыць зраблю карацей, калі знайду кагосьці, хто зможа гэта зрабіць...
Ну і дарэмна.
Як табе быць мужам?
Я ў захапленні. Сапраўды, так і ёсць. Відаць, гэта лепшае, што здарылася са мной.
Я шчаслівы. Гэта проста фантастыка.
Пройдзе час...


Як яго паводзіны мінулай ноччу?
Дзякуй. Ты вельмі дапамагла нам... Добра, што ў нас ёсць ты, каб прыглядзець за Карлам.
Усё было выдатна. Вы з Рыкам добра яго выхавалі.
Мы пагуляем у карыдоры, мам.
Была рада дапамагці. Сафія так любіць Карла... Яны ладзяць, як брат з сястрой. Добра, што ён каля яе.
І яна не самотная.
Кэрал, з табой усё добра?
Канешне, з чаго бы мне быць не ў парадку? Усё выдатна, Лоры.
Усё добра. Сапраўды.
Прабач, што аддалілася ў апошні час. Мы былі такімі блізкімі раней. Проста валтузня з дзіцём і апошнія месяцы цяжарнасці...
Прабач, што не знайшла часу, каб пагаварыць.
Канешне.
Там скрынка нясвежых кукурузных шматкоў нас ніяк не дачакаецца. Пайшлі забяром дзяцей.
Хочаш, паснедаем разам?



Табе сапраўды патрэбна гэта? Ты ўжо не адзін год страляеш са стрэльбы.
Апошнія два месяца я толькі і рабіў, што высаджваў, вырошчваў, збіраў ураджай. Таму я трохі саржавеў.
І хачу папрактыкавацца столькі, сколькі змагу.
У цябе атрымалася. Ты патрапіў.
BLAM!
Так, яшчэ некалькі тыдняў, і я змагу патрабіць у слоік, калі не будуць аццягваць маёй увагі і дадуць добра пацэліць.
Скажы толькі, як гэта мне дапаможа? На нас жа не збіраюцца напасці нерухомыя кансервовыя слоікі, згодна?
Мы можам толькі спадзявацца.
Гэта карысна. Ты пазнаёмішся са зброяй, табе стане лаўчэй страляць з яе. Гэта дапаможа лягчэй патрапіць у цэль у любой сітуацыі.
Працягвай.
PTING!
Малайчына, Білі. Ты ж цэліў менавіта ў гэты слоік?
Так. Дакладна ў яе. Праўда.
Добра.
PTING!
Ха! Яшчэ адна!
Шосты! Я монстар!
Выдатна атрымліваецца, Мэгі.
Мабыць пакажаш Тайрысу, як гэта робіцца?
Запхніся.


Трымай ружжо так, каб ты бачыў вунь гэтую маленькую фігавіну на канцы стрэльбы між вунь гэтымі дзвюма... што з твайго боку... Потым навядзі на тое, па чым ты хочаш страляць... І страляй.
Поўная адсутнасць веры ў мае сілы вельмі бадзёрыць. Працягвай тым жа чынам.
BLAM!
Ты сапраўды дала мне нармальныя кулі? Я трапляў бы час ад часу.
Паспрабуй кінуць у іх ружжом. Мабыць тады атрымаецца.
Проста цісні на курок пяшчотней... Не рабі рэзкіх рухаў.
Вось так.
Гэй, пачакай!
Дэйл, пачакай!
Я табе дапамагу!
FWUMP!


Ведаеш, пасля двух тыдняў у гэтым інвалідным крэсле, я думаў, што ніколі больш не захочу сесці. Але ты ўявіць сабе не можаш, як баліць нага, калі няма на што перанесці вагу.
Як сябе адчуваеш?
Ты хацеў спытаць, ці не збіраюся я здохнуць? Ален да самой смерці не мог нават з ложка ўстаць. Мяркую, я ў парадку.
А няўжо Карл больш не вучыцца страляць? Калі вы з Шэйнам уладкавалі стрэльбішча ў лагеры, ён туды хадзіў.
Тады ўсё было інач. Зараз, з гэтымі платамі, мы ў бяспецы. Ня трэба яму насіць пісталет... І ведаць, як ім карыстацца.
Лічу, лепш дазволіць яму пабыць дзіцём яшчэ нейкі час. Хто ведае, колькі гэта яшчэ працягнецца?
Гэта чортава турма каштавала мне нагі.
Ты хаваешся за гэтым плотам занадта доўга... І ўсе гэтыя зомбі на тым баку, а ты назіраеш за імі з гэтага... І, у рэшце рэшт, ты забываеш, якія яны.
Ты бачыш, што яны рухаюцца павольна, і ўжо не разумеш, наколькі яны небяспечныя і як лёгка могуць дабрацца да цябе...
Я зусім забыў, як гэта – быць там. І гэта амаль забіла мяне.
Ты добра перанес гэта.
Усё ў свеце адносна. Ці злуюся я з-за таго, што страціў нагу і ледзь не памёр, ці шчаслівы, што ўсяго толькі страціў нагу і застаўся жывы?
Я яшчэ не вырашыў.


Улічваючы ўсё гэта, у нас атрымаўся проста выдатны месяц. Я б сказаў, што жыццё наладжваецца. Канешне, дзёўбанутыя засрачнікі з Вудберы – гэта прычына для хвалявання, але гэта не тая праблема, якую магчыма вырашыць хутка.
З іншага боку Глен перажыў стрэл драбавіка. Уся група вярнулася цэлай, з харчаваннем і зброяй якіх нам хопіць на доўга. Тваё дзіця нарадзілася без цяжкасцяў і гэта добра.
Я выжыў пасля ўкуса... Зрабіў тое, што ні ў кога да гэтуль не атрымлівалася.
Так, напэўна, ты маеш рацыю. Калі так на гэта паглядзець, справы сапраўды ідуць вельмі добра.
Так і ёсць...
Усё добра, усё прывабна.
А цяпер паглядзім, колькі гэта працягнецца.

NEXT ISSUE
Death surrounds them.
CLIFF
ПРАЦЯГ НА ComicsBY БУДЗЕ!